# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50 кап.

28 САКАВІКА 1992 г. субота, № 64 (21842)


**СОНЦА:**

Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 5.53, 18.37, 12.44;
Віцебск — 5.42, 18.28, 12.46;
Магілёў — 5.42, 18.26, 12.44;
Гомель — 5.38, 18.24, 12.46;
Гродна — 6.05, 18.54, 12.48;
Брэст — 6.10, 18.51, 12.41.

**МЕСЯЦ:**

Апошняя квадра 26 сакавіка.

**ІМЯНІНЫ:**

Аляксандра, Дзяніса, Нікандра; Анэлі, Яна

# РОЗГАЛАС

## НА ПАРАДКУ ДНЯ — МІЖПАРЛАМЕНЦКАЯ АСАМБЛЕЯ

**АЛМА-АТА, 27. Спец. кар. «Звязды» Л. Рыжанкова. (Па тэлефоне).**

Перыяд, што пачаўся пасля імклівага распаду Саюза, пазначаны цяжкім, супярэчлівым і не заўсёды выніковым пошукам найбольш аптымальных варыянтаў супрацоўніцтва суверэнных дзяржаў і іх маладых парламентаў. Гэтай праблеме прысвечана чарговая (другая) нарада Старшынь Вярхоўных Саветаў дзяржаў — удзельніц СНД. У сталіцу Казахстана прыбылі кіраўнікі парламентаў 9 дзяржаў Садружнасці — Арменіі, Беларусі, Казахстана, Кыргызстана, Расіі, Таджыкістана, Узбекістана, Украіны, Азербайджана (прадстаўнікі апошняга прымаюць удзел як назіральнікі). Не змаглі прыбыць, як падкрэслівалася, «па аб'ектыўных прычынах» дэлегацыі Туркменістана і Малдовы.

Цэнтральнай праблемай высокай нарады стала выпрацоўка прынцыповага меркавання па пытанню аб Міжпарламенцкай асамблеі як аснове супрацоўніцтва заканадаўчых і прадстаўнічых органаў краін Садружнасці. Стварэнне такога інстытута, на думку дэлегацый, дасць магчымасць праз агульную згоду забяспечыць стабільнасць і ўзаемаразуменне ў сённяшняй няпростай абстаноўцы. Такой канцэпцыі прытрымліваецца і беларуская дэлегацыя, якую ўзначальвае намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі Васіль Шаладонаў.

Нарадзе папярэднічала напружаная праца рабочых груп, якія вось ужо некалькі дзён знаходзяцца ў Алма-Аце. Імі распрацавана канцэпцыя, у тым ліку і альтэрнатыўная, аб формах супрацоўніцтва ў пытаннях грашова-крэдытнай і падатковай сістэм, аб стварэнні адзінай інфармацыйна-даведачнай службы, прапануюцца шляхі супрацоўніцтва пастаянных камісій і камітэтаў Вярхоўных Саветаў. Цэнтральная ідэя дакументаў — дабіцца ўзгодненай работы пры захаванні інтарэсаў суверэнных дзяржаў. Бо ўжо зараз у многіх узнікае апасенне, ці не стане новае фарміраванне ўзнаўленнем нейкага цэнтра, які будзе квапіцца на правы незалежных рэспублік. Засцярогай ад гэтага павінна стаць выпрацоўка гібкіх, прадуманых форм супрацоўніцтва, якія нараджаюцца ў гарачых спрэчках.

Застаецца дадаць, што нарада супала з самым любімым святам казахскага і іншых мусульманскіх народаў — Наўрузам. А гэта, як сказаў пры адкрыцці пасяджэння Старшыня Вярхоўнага Савета Казахстана А. Серыкбалсын — прадвеснік добрых спраў.

Усе мяркуемыя дакументы падпісаны, галоўны з іх — Пагадненне аб стварэнні Міжпарламенцкай асамблеі дзяржаў — удзельніц СНД. Яго падпісалі ўсе дзяржавы, за выключэннем Украіны. Наступная нарада асамблеі — у Бішкеку.

## ДЛЯ ЧАГО АБ'ЯДНОЎВАЮЦЦА МАЦІ

БАБРУЙСК. Гарвыканкомам зарэгістравана новая грамадская арганізацыя, якая аб'ядноўвае маці, дзеці якіх хварэюць на анкалагічныя і гематалагічныя захворванні. Называецца яна «Дзеці ў бядзе». На сённяшні дзень у ёй 53 чалавекі.

Створана арганізацыя для аказання падтрымкі хворым дзецям у іх лячэнні і аздараўленні. А дапамаглі ў распрацоўцы статута і арганізацыі таварыства ўрач Мінскага рэспубліканскага гематалагічнага цэнтра Вольга Алейнікава і нямецкі ўрач Валянцін Герайн. Фактычна ж існуе гэта таварыства яшчэ з мая мінулага года і за гэты час дзякуючы намаганням бацькоўскага савета амаль 80 працэнтаў дзяцей таварыства пабывалі на лячэнні ў Германіі.

## УКРАІНА: КУРС НА АДАСАБЛЕННЕ

**Напэўна, многія ўжо даведаліся з маскоўскага друку аб апошніх рашэннях украінскага парламента. Калі зыходзіць з гэтых паведамленняў, украінскія дэпутаты і Прэзідэнт выказаліся за «поўны выхад з рублёвай прасторы, неадкладнае ўвядзенне адначасова з лібералізацыяй цэн у Расіі ўласнай валюты». Прапануецца «адначасовае ўвядзенне сістэмы ўзаемаразлікаў з дзяржавамі рублёвай зоны на аснове міжнародных норм і арыентацыі на сусветныя цэны». Прадугледжваецца паэтапнае скарачэнне ўвозу прадукцыі з краін указанай зоны...**

Гэта — галоўныя моманты з «асноў нацыянальнай эканамічнай палітыкі», пра якія паведамілі, напомню, выданні маскоўскага друку. Як гэтыя рашэнні могуць паўплываць на нашу рэспубліку?

**Вось што гаворыць вядучы спецыяліст Упраўлення рэгіянальных сувязей і матэрыяльных рэсурсаў СМ Беларусі М. КАЛЕШКА:**

— Вынікі для нас могуць быць вельмі сур'ёзныя. Па многіх пытаннях мы вельмі цесна завязаны на Украіну, Расію і Казахстан. Лічу, што такі крок цяпер, калі і без таго рвуцца сувязі,— неапраўданы. Дадатковыя цяжкасці будуць для ўсіх, у тым ліку і для Украіны.

Асабліва ж адчуем гэта мы — рэспубліка, якая завозіць рэсурсы, зарыентавана пераважна на выраб гатовай прадукцыі. З Украіны ідуць і трубы для вода-, газа- і цеплазабеспячэння (крайне важная пазіцыя), і метал, і сельскагаспадарчая прадукцыя — цукар, алей, прычым у пераважнай большасці...

Вядома, рублі хлынуць. Гэта ж зразумела: калі чалавек будзе ведаць, што зароблены ім сёння рубель заўтра можа не спатрэбіцца,— ён абавязкова пазбавіцца ад яго. Іншая справа, калі пераход на сваю валюту на Украіне пройдзе цывілізавана, калі чалавек упэўнены, што яго рублі абавязкова абмяняюць...

Увогуле, у гэтыя звесткі з Украіны не веру, не хочацца верыць. Гэта практычна азначала б поўны разрыў — вядома, калі меркаваць па паведамленнях прэсы. А нашы суцэльна кааперавaныя эканомікі цяпер проста не могуць без узаемнай падтрымкі. Зразумела, разам з тым патрэбны пэўныя механізмы для іх абароны і каардынацыі.

Той дух свабоды, які з'явіўся ў народаў (і ўвогуле — гэта добра), не павінен весці да адасаблення, да натуралізацыі нашых гаспадарак.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# Дзе знайсці тыя словы?..

**У чэрвені, магчыма, Беларусь будзе мець новы нацыянальны гімн**

У віхуры палітычных і эканамічных праблем, якія трасуць наш край штодзённа, мы неяк зусім забыліся аб тым, што корміць нас духоўна. Мы забыліся, што разам з пераходам да рынку, прыватызацыяй і раздзяржаўленнем ідзе яшчэ адзін працэс, бадай, самы галоўны у гэты момант — наша нацыянальнае адраджэнне. Мы не пачынаем сёння з нуля, мы прадаўжаем справу, пачатую нашымі папярэднікамі на самым золаку нашага жорсткага і няўмольнага XX стагоддзя. Таму — нам лягчэй зараз.

Роўна паўгода назад многія з нас не адыходзілі ад радыёпрыёмнікаў у той час, калі прадстаўнікі беларускага народа ў вышэйшым заканадаўчым органе дзяржавы вярталі свайму краю яго адвечныя гістарычныя сімвалы — герб і сцяг. Ведаеце, нават сёння цяжка верыцца ў тое, што здарылася: вольная і незалежная Беларусь мае сваю адметную атрыбутыку — тую самую, за якую так доўга давялося змагацца і якую — магчыма, адзіную ў свеце — забаранялі спецыяльнымі законамі і пастановамі. Між тым, у трыадзіным маральна-духоўным аблічччы Беларусі і да гэтага часу адсутнічае адно істотнае звяно: наша дзяржава жыве без уласнага гімна. Вядома ж, будзіць нас раніцой знаёмая, даўно ўжо бясслоўная мелодыя — тое, што засталося ад колішняга Дзяржаўнага гімна Беларускай ССР. Але ж нездарма кажуць, што з песні слова не выкінеш, яно ў ёй назаўсёды, а таму, ці можа гэта называцца гімнам новай, адроджанай краіны?

Музычна-слоўным выразам нацыянальнай ідэі (а менавіта такая пачэсная роля гімна) не могуць быць заклікі, ухваленні, і праслаўленні якой бы там ні было партыі — накіроўваючай ці ненакіроўваючай — або гістарычнай асобы, якога б вялікага розуму яна ні была. Гістарычны вопыт паказвае гэта, і тут няма патрэбы шукаць прыклады дзесьці далёка — у нас ёсць свае.

Памыляецца той, хто ў якасці адзінага беларускага гімна ўзгадае Клімковічаўскі «Мы — беларусы...» Хто яго спяваў, дзе і як? Ці была гэта сапраўды народная песня, якая адлюстроўвала імкненні і спадзяванні нашага народа і з'яўлялася візітнай карткай нашага сінявокага краю?

У нас былі свае гімны — на ўсіх этапах нацыянальнага адраджэння, — яны ёсць і сёння. Іх ніхто не мог адабраць.

Успомнім. 1910 год, Купала: «А хто там ідзе...» — спрадвечнае жаданне беларусаў «людзьмі звацца». Гэты, нашаніўскі, перыяд беларускага адраджэння быў самым першым і самым цяжкім. Але пачатак быў пакладзены — беларусаў заўважылі, пачулі, на іх голас адгукнуліся лепшыя прадстаўнікі чалавецтва.

Далей — 1917 год. У. Галубок стварае арыгінальны вершаваны твор да мелодыі вядомай «Марсельезы». Твор загучаў — на першым Усебеларускім кангрэсе, пазней — на ўсіх урачыстасцях, якія праводзіліся ў БССР, і фактычна да 1930 года з'яўляўся дзяржаўным гімнам. Аб гэтым факце расказала нядаўна газета «Свабода». Але асаблівую папулярнасць «Беларуская марсельеза» набыла ў Заходняй Беларусі, менавіта з ёй шырокія народныя масы выступалі там за свае сацыяльныя і нацыянальныя правы.

У 1919 годзе паэтам М. Краўцовым (Касцевічам) і кампазітарам У. Тэраўскім напісаны «Ваяцкі марш» («Мы выйдзем шчыльнымі радамі...»). Гэты твор фактычна з'яўляўся дзяржаўным гімнам Беларускай Народнай Рэспублікі, пад ім змагаліся ўдзельнікі вядомага Слуцкага паўстання. Лёсы ж абодвух аўтараў бясследна губляюцца ў 30-я гады ў засценках НКУС.

Можна ўзгадаць тут таксама бессмяротную Багдановічаву «Пагоню» (ёсць тры варыянты музыкі), «Люблю» Канстанцыі Буйло — сапраўды народная песня, «Магутны Божа...» выдатнай паэтэсы беларускага замежжа Наталлі Арсеньевай. Пералічваць можна бясконца. Але як сярод усяго гэтага багацця выбраць адзінае, што сапраўды адпавядала б нашаму сённяшняму дню?

У лістападзе мінулага года быў аб'яўлены конкурс на стварэнне Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь. Ужо прайшлі два яго туры, наперадзе трэці, рашаючы. А таму, відаць, і самы час паглядзець, што мы ўжо маем. Вось што расказаў нам Уладзімір Рылатка, намеснік міністра культуры рэспублікі і намеснік старшыні камісіі, якая разглядае дасланыя на конкурс творы (яе, дарэчы, узначальвае паэт Ніл Гілевіч):

— Што такое гімн і як яго стварыць? Члены нашай камісіі разышліся ў думках. Вярцінскі прапаноўваў свае падыходы, Гілевіч—свае і г. д. Але потым удалося ўсё ж сысціся на некаторых агульных маральных якасцях, якія павінны быць у гімна.

Шлях музычна-паэтычнага твора — песні — да таго часу, калі ён становіцца гімнам, не мае ніякіх тыповых законаў. У розных народаў гэта адбывалася па-рознаму. У час рэвалюцый, нацыянальна-вызваленчых войнаў песні, з якімі заваёўвалася воля, і станавіліся гімнамі. Можна прывесці прыклады з «Марсельезай» ці «Інтэрнацыяналам». У некаторых жа краінах гімны спецыяльна ствараліся прафесіянальнымі аўтарамі. Асаблівасць нашага, беларускага, пошуку гімна—гэта асаблівасць нашага гістарычнага лёсу.

Ці былі цяжкасці з пошукамі неабходнага матэрыялу? Вядома. Таму што многае са створанага да 30-х гадоў у нашай паэтычнай і музычнай культуры было потым на дзесяцігоддзі забаронена, выкраслены з народнай памяці прозвішчы іх аўтараў — паэтаў і кампазітараў. Яны толькі-толькі пачалі зноў вяртацца да нас. Ну а тое, што стваралася пазней, не ў такой меры адпавядае беларускаму дзяржаўнаму патрыятызму і Гімн Беларускай ССР — таму яскравы прыклад.

Гімн — як сцяг. Чым мы кіраваліся тут? Гэта не толькі атрыбут дзяржаўнасці, але таксама і магутны фактар патрыятычнага выхавання. Я ўсёй душой падтрымліваю тых палітыкаў, якія адмаўляюцца ад жабрацкіх спекуляцый на нашых цяжкасцях. Маўляў, мы — няшчасныя, пакрыўджаныя, забытыя і забітыя... Сёння ад гэтага трэба адмовіцца. Галоўнае цяпер — выхаваць новае пакаленне людзей, якія павінны верыць у мужнасць, мудрасць, працаздольнасць свайго народа, які ва ўсе часы ведаў адзін закон — закон сумлення. Вось гэтыя пачуцці гімн і павінен данесці да кожнага грамадзяніна рэспублікі. Тады гэты твор сапраўды стане маральна-дзяржаўным тварам Беларусі. З другога боку, гімн павінен быць даступны па свайму меладычнаму складу, добра гучаць у выкананні і духавога, і сімфанічнага аркестраў, хору. Адпавядаць якасцям гімнавай народнай песні і быць адначасова носьбітам сучасных музычных традыцый. Вось на такія якасці звяртала ўвагу камісія, разглядаючы дасланыя на конкурс творы.

Разглядалася, як паведаміў У. Рылатка, 67 арыгінальных вершаваных тэкстаў, 31 музычны твор з тэкстамі, тры чыста музычныя — работы хапала. Сярод усяго гэтага багацця — творы, напісаныя ў апошнія гады, спецыяльна да конкурсу, і класіка — вершы Багдановіча, Купалы, Коласа. На другі тур прайшло толькі 7 твораў. Чатыры з іх пад дэвізамі: «А хто там ідзе...», «О, фартуна», «Белая вежа», «Тры варыянты» (нагадаем, што конкурс закрыты і пад дэвізамі «хаваюцца» прозвішчы аўтараў), а таксама тры творы з беларускай паэтычнай класікі. «Магутны Божа»—верш Н. Арсеньевай, «Пагоня» М. Багдановіча і «Ваяцкі марш» М. Краўцова. Чаму так шмат было адсеена? Многія вершы, а Уладзімір Рылатка перадаў іх для азнаямлення нам, проста не адпавядаюць патрэбнаму паэтычнаму ўзроўню, на гімн «не цягнуць». Вялікія па аб'ёму, з грувасткім складам:

**За ідэалы шчасця і свабоды**
**Мы праведны і смутны шлях**
**прайшлі,**
**І дзякуючы мужнасці народа**
**Выпрабаванняў шмат**
**перамаглі.**

Гэтыя радкі чытаюцца цяжка, а як іх спяваць? Не мог прайсці і перапрацаваны кімсьці варыянт былога гімна на музыку Нестара Сакалоўскага:

**Мы — беларусы з сваімі**
**сябрамі**
**Разам шукалі к шчасцю дарог,**
**У бітвах за волю, ў бітвах**
**за долю,**
**Мы дасягнулі сваіх перамог!**
**Нас аб'яднала рэспублікі імя...**
**і г. д.**

Да сапраўднага мастацтва тут далёка. Думаецца, не зразумелі б людзі і такія радкі наступнага твора: «Беларусь, больш ты не будзеш праклятай, далоў расійскі аброк!..» Здзіўленне і неўразуменне выклікала б гэта і ў нашых суседзяў.

Увогуле, многія з прадстаўленых твораў стылізаваныя. Гэта не той шлях, па якім трэба ісці ў такой справе. Таму з асаблівай увагай журы аднеслася да сапраўды класічных твораў — вершаў Багдановіча, Краўцова, Арсеньевай. Вельмі прыгожа сказаў неяк Рыгор Барадулін: «Літаратурная класіка, як тое фамільнае срэбра, перадаючыся з пакалення ў пакаленне, хоць і цямнее ад часу, але не становіцца менш каштоўным, наадварот, яго вартасць узрастае...»

З сучасных твораў хацелася б выдзеліць «Гімн» пад дэвізам «Покліч». Можа, гэта і суб'ектыўнае меркаванне, але чытайце дзве толькі страфы:

**Рушыў нас покліч турынага**
**рогу,**
**Што пратрубіў нам пабудку**
**ў бядзе,**
**І, саступаючы ў свеце дарогу,**
**Людзі пыталі: — А хто там**
**ідзе?**

. . . . . . . . . .

**Хай нам не сцелюць пад ногі**
**абрусы,**
**Не спатыкаемся ў сталай**
**хадзе.**
**Будзем знаёміцца: мы —**
**беларусы,**
**Мы гадаваны ў сваёй грамадзе!**

На мой погляд, проста цудоўна. Нават калі гэты твор і не стане гімнам, то ўсё роўна мы пабагацеем на добрую песню.

Сёння яшчэ цяжка сказаць, на чым спыніцца камісія. Да ўсіх твораў зроблена аранжыроўка, робяцца іх запісы на радыё і тэлебачанні, і неўзабаве кожны з нас можа пачуць іх і падаць свой голас у падтрымку таго ці іншага. Ёсць упэўненасць, што ў чэрвені Вярхоўнаму Савету будзе прапанаваны канчатковы варыянт Гімна незалежнай дэмакратычнай Беларусі.

**Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

## Беларусь раззброіцца. Але калі?

**Вывад стратэгічнай ядзернай зброі з Беларусі можа замарудзіцца, калі Захад нам не дапаможа**

— Будучая ваенная дактрына Беларусі — гэта дактрына абароннага тыпу,— заявіў у Хельсінкі на пасяджэнні Савета Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе міністр замежных спраў рэспублікі Пётр Краўчанка. І тут жа праілюстраваў гэты тэзіс канкрэтнымі прыкладамі актыўнага ядзернага раззбраення Беларусі. Тактычная ядзерная зброя, сказаў ён, у «цэлым вывезена з тэрыторыі краіны». Засталася невялікая частка яе, якая знаходзіцца на складах і выведзена са стану павышанай баявой гатоўнасці.

Раней палітычныя лідэры Беларусі заяўлялі аб гатоўнасці як найхутчэй ператварыць краіну ў бяз'ядзерную зону, не ставячы пры гэтым ніякіх умоў ні перад Захадам, ні перад Усходам. Аднак цвярозы разлік і прыклад паўднёвага суседа, па ўсім відаць, зрабілі сваю справу: П. Краўчанка адзначыў, што вывад стратэгічнай ядзернай зброі з Беларусі можа замарудзіцца, калі Захад не акажа пэўную дапамогу, на якую разлічвае рэспубліка. Для чаго патрэбна гэта дапамога? Для кантролю за экспартам ядзерных матэрыялаў, для дэзактывацыі месц ранейшага захоўвання гэтай зброі, для вырашэння сацыяльных задач, звязаных з яе ліквідацыяй.

Відавочна, пазіцыя Беларусі ў адносінах да вываду стратэгічных ядзерных узбраенняў — не перагляд ці адмова ад ранейшых рашэнняў, а зусім натуральны, разважлівы, рацыянальны погляд на сітуацыю. Ракетныя базы на тэрыторыі Беларусі — не толькі нашы праблемы. Не менш, а, магчыма, нават больш, чым нас, яны хвалююць тых, на чые галовы яшчэ зусім нядаўна былі нацэлены іх боегалоўкі.

Акрамя таго, П. Краўчанка вылучыў шэраг прапаноў аб парадку дня хельсінкскай сустрэчы, што адбудзецца ў ліпені гэтага года. На яго думку, варта разгледзець праблему стварэння бяз'ядзернага пояса ў цэнтры Еўропы, які ўключаў бы скандынаўскія краіны, дзяржавы Балтыі, Беларусь, Украіну, краіны Цэнтральнай Еўропы.

Прадметам абмеркавання, як лічыць П. Краўчанка, магло б стаць аб'яднанне намаганняў на праверцы бяспекі атамных станцый — перш за ўсё на тэрыторыі былога СССР, а таксама радыкальныя меры ў сферы экалогіі — распрацоўка Еўрапейскай экалагічнай хартыі.

**Валянцін ЖДАНКО.**

## У НЕБРАСЦЫ РАЯЦЬ: КУПЛЯЙЦЕ «БЕЛАРУСЬ»!

Днямі ў галоўнае спецыялізаванае канструктарскае бюро Мінскага трактарнага завода паступіў дакумент на англійскай мове — сертыфікат якасці. Яго прыслалі з аднаго з універсітэтаў амерыканскага штата Небраска, дзе праходзілі выпрабаванні трактары Беларусь-570, Беларусь-572 і МТЗ-80. Атрыманы сертыфікат — неабходная ўмова для продажу любой сельскагаспадарчай тэхнікі на амерыканскім рынку. Вось чаму фірмы многіх краін імкнуцца займець «каштоўную паперу». Спецыялісты трактарнай лабараторыі Небраскі праверылі нашы машыны па многіх параметрах: выпрабоўвалі іх на бетонным трэку, вызначалі ўзровень шуму ў кабіне вадзіцеля, вымяралі эфектыўнасць дзеяння тармазоў. І амаль па ўсіх параметрах атрымалі добрыя вынікі. А па эканамічнасці трактары МТЗ-570-572 занялі першае месца, апярэдзіўшы машыны такіх вядомых фірм, як «Форд» і «Кейс».

Але адна справа атрымаць выхад на рынак Амерыкі і зусім іншая — умець прадаць прадукцыю. Якраз тут патрэбна асаблівае майстэрства. Фірма «Беларусь машынеры» гандлюе мінскімі трактарамі ў ЗША і паспяхова збывае свой тавар. Толькі ў мінулым годзе амерыканцы купілі больш як 1.600 машын з маркай «Беларусь».

**Алег ПРАЦЬКО.**

# Шахцёры хочуць есці лепш

**Рэхам пракацілася па рэспубліцы навіна — салігорскія гарнякі зноў бастуюць. Прычына ўсё тая ж: ненадзейны механізм сацыяльнай аховы людзей ва ўмовах няспыннага росту цэн літаральна на ўсё. Выжыць у такіх умовах вельмі складана. Але гарнякі Салігорска не нейкае выключэнне ў эканамічным жыцці рэспублікі. У такім жа становішчы апынуліся рабочыя ўсіх прадпрыемстваў. Дык што, аб'яўляць усеагульную забастоўку? Ці на нейкую падтрымку спадзяюцца калійшчыкі? Даць тлумачэнні наконт гэтага згадзіўся сакратар-казначэй Незалежнага прафсаюза гарнякоў Беларусі Аляксандр ДОЎНАР.**

— Спачатку я растлумачу сутнасць нашага канфлікту, — пачаў Аляксандр Андрэевіч. — Ён заснаваны на законных патрабаваннях прафсаюзаў. Яны на падставе трэцяга артыкула Закона РБ «Аб мінімальнай заработнай плаце і мінімальных гарантыях у адносінах да аплаты працы» склалі тарыфнае пагадненне — нарматыўны акт, які мог бы абараніць у гэты пераходны перыяд ад вакханаліі ў працоўных і сацыяльных адносінах. Мы не мелі на мэце вызначаць памер зарплаты або яе павышэнне. У тарыфным пагадненні закладзены прынцыпы фарміравання аплаты працы. Сутнасць іх у тым, што мінімальная заработная плата павінна налічвацца зыходзячы са спажывецкага бюджэту, г. зн. той сумы, якая неабходна для аднаўлення страчаных на рабоце фізічных і псіхалагічных сіл. У нашай рэспубліцы гэты бюджэт вылічваецца па сацыяльна-дэмаграфічнаму прынцыпу, пры якім ураўніваюцца ўсе катэгорыі працуючых. Мы прапанавалі новы падыход — прафесіянальны. Для аднаўлення фізічных і псіхалагічных сіл шахцёра неабходна 4.500 кілакалорый. Іх можна набраць з адпаведнага пераліку прадуктаў харчавання, зацверджанага Міністэрствам аховы здароўя былога СССР. Гэты пералік дзейнічае ў рэспубліцы. У тарыфным пагадненні разлікі зроблены на падставе рэкамендацый прафесара Пакроўскага, дырэктара Інстытута харчавання АМН СССР. Але гэта не з'яўляецца прынцыповай супярэчнасцю паміж методыкай урада і нашай. Прычына канфлікту ў тым, што ўрад РБ не хоча вырашаць прынцыповыя пытанні, выкладзеныя ў тарыфным пагадненні. Яны датычаць прынцыпаў фарміравання аплаты працы, камбінаванага сацыяльнага страхавання з персаніфікацыяй яго і занятасці. Прафсаюзы павінны выступаць гарантамі абароны сацыяльных і працоўных інтарэсаў сваіх членаў. Таму мы прапанавалі, каб адміністрацыя прадпрыемстваў, дзяржаўныя органы не мелі права выганяць людзей на вуліцу. Чалавеку, які трапіў пад скарачэнне і не змог уладкавацца на работу, на працягу года прадпрыемства або дзяржава (залежыць ад таго, дзе ён працаваў) павінны плаціць зарплату. Але ўрад не пажадаў знайсці кампраміс у вырашэнні прапанаваных намі пытанняў. Таму 26 лютага на канферэнцыі працоўнага калектыву вытворчага аб'яднання «Беларуськалій» было вырашана аб'явіць забастоўку. 12 сакавіка перасталі працаваць усе чатыры руднікі. Урад на гэта і вухам не павёў. 16 сакавіка была спынена пагрузка мінеральных угнаенняў другога рудаўпраўлення — прыпынілася адпраўленне прадукцыі спажыўцам. І гэта не мела ўплыву на кіраўніцтва аб'яднання і Дзяржкампрацы. На наступны дзень прыпынілася адгрузка прадукцыі на ўсім прадпрыемстве. Зноў ніякай рэакцыі. Кіраўніцтва аб'яднання «Беларуськалій» падало ў суд на Незалежны прафсаюз гарнякоў і хімічнай прамысловасці Беларусі.

**— Якая заработная плата ў рабочых вашага прадпрыемства?**

— У лютым у цэлым па прадпрыемству яна склала 1.200 рублёў. Гэта разліковая лічба. У тых, хто працуе непасрэдна ў шахце, мінімальная зарплата дзве тысячы рублёў, максімальная — каля шасці тысяч. Але ў нашым тарыфным пагадненні няма гаворкі пра велічыню зарплаты. І лічба нас не цікавіць. Справа ў прынцыпе налічэння зарплаты. Бо для таго, каб жыць, мы павінны есці. А цэны растуць і растуць. Якія яны будуць у маі, невядома. Сёння ўжо тыя матэрыялы, якія паступаюць да нас: мазут, рэчывы для ўзбагачэння карысных выкапняў каштуюць у 50 разоў даражэй, чым летась. Але і гэта не мяжа. Прадказаць, якой будзе цана праз месяц,—немагчыма. Цана на нашы мінеральныя ўгнаенні павялічылася ў 17 разоў і стала перашкодай у іх рэалізацыі, асабліва на ўнутраным рынку. Нашы калгасы даведзены да такога стану, што купіць тону ўгнаенняў амаль за тысячу рублёў не могуць. Як у такіх умовах гаспадарыць прадпрыемству? Трэба шукаць выйсце. Прафсаюзы бачаць яго менавіта ў змяненні сістэмы аплаты працы і сістэмы сацыяльнага страхавання. Не, мы зусім не хочам ліквідаваць дзяржаўнае страхаванне. Але мы супраць таго, каб грошы людзей прападалі ў бяздоннай бочцы дзяржстраху. Наша прапанова — увесці дадаткова персаніфікаваныя медыцынскае, пенсіённае і іншыя віды страхавання.

**— Калі ўзяць прамысловасць нашай рэспублікі наогул, то ўсе прадпрыемствы зараз апынуліся ў аднолькавых умовах. Амаль паўсюдна, за некаторым выключэннем, прыходзіцца то скарачаць працоўны тыдзень, то адпраўляць людзей у водпуск без утрымання, то не выдаваць зарплату месяцамі. Рытмічна працаваць няма магчымасці з-за нястачы сыравіны і камплектуючых. Многія прадпрыемствы не могуць збыць сваю прадукцыю з-за высокіх цэн. А зарплата, мабыць, мала дзе дасягае шасці тысяч у месяц. Але ж яны не бастуюць.**

— Цікава! Тады я запрашу вас у шахту і спушчу на глыбіню ў тысячу метраў. Там вам стане зразумела, што ўмовы працы шахцёраў далёка не звычайныя. Ёсць у нас узбагачальная фабрыка. Там працуюць жанчыны. У паветры пары амінаў — канцэрагенных рэчываў, якія выклікаюць ракавыя захворванні, вельмі высокая вільготнасць. Жанчыны не здымаюць гумавыя боты. І арганізм іх «зношваецца» вельмі хутка. Для яго аднаўлення патрэбна больш сродкаў, чым для рабочага звычайнага прадпрыемства.

Толькі не трэба думаць, што мы хочам у некага забраць, а сабе ўзяць. Не. Мы толькі хочам атрымаць тое, што зарабляем. Мы пастаўляем прадукцыю на экспарт і на ўнутраны рынак. Ёсць у нас і ўласныя магчымасці для вырашэння сацыяльных праблем калектыву. Але 50 працэнтаў экспартнай прадукцыі ў нас забірае рэспубліка. За продаж за мяжу рэспубліка нам вяртае 10 рублёў за адзін долар (!) Падатак, які вызначыў Вярхоўны Савет, не ўлічвае спецыфікі вытворчасці. У нас пад зямлёй дзесяцікіламетровыя горныя выпрацоўкі, там працуюць камбайны, ёсць узбагачальная фабрыка — адным словам, у нас вялікія капітальныя затраты. А атрымліваецца, што наша аб'яднанне і любая іншая фабрыка, на якой некалькі станкоў, плацяць

МЕРКАВАННЕ ПРАФСАЮЗАЎ

аднолькавы падатак. Між іншым, у цывілізаваным свеце горназдабываючыя комплексы маюць ільготнае падаткаабкладанне.

**— У друку была інфармацыя, што вы шукаеце падтрымкі сваёй забастоўцы на іншых прадпрыемствах рэспублікі. Якой падтрымкі вы хочаце ад іх?**

— І маральнай, і матэрыяльнай. Мы не працуем і не атрымліваем зарплату. Калі рабочыя з іншых прадпрыемстваў прачытаюць нашы патрабаванні, прымуць іх, то яны нас падтрымаюць. Зараз мы ствараем фонд дапамогі бастуючым. Калі адкрыем рахунак, паведамім нумар у друку. Спадзяёмся, што на яго будуць пералічваць сродкі, а мы іх выкарыстаем для матэрыяльнай падтрымкі калійшчыкаў, калі забастоўка зацягнецца надоўга.

## Забастоўка скончыцца судом?

**Нарэшце ўрад пачуў галасы салігорскіх калійшчыкаў. Створана камісія Дзяржкампрома. Яна працуе на месцы, у аб'яднанні «Беларуськалій». Узначальвае яе намеснік старшыні Камітэта па пытаннях эканомікі Анатоль Андрэевіч Дромаў. Па тэлефоне вечарам 26 сакавіка мы звязаліся з Анатолем Андрэевічам. Закончыўся другі дзень работы камісіі.**

**— Анатоль Андрэевіч, што ўжо можна сказаць наконт забастоўкі і работы вашай камісіі? Што ўдалося высветліць?**

— Эканамічных матываў для забастоўкі няма. Ёсць толькі незадаволенасць з боку шахцёраў: маўляў, мы лезем пад зямлю, ад зарплаты тых, хто працуе наверсе, на-

МЕРКАВАННЕ АФІЦЫЙНАЙ АСОБЫ

ша мала чым адрозніваецца. Але ў дзяржаўным бюджэце няма сродкаў, каб павысіць зарплату гарнякам-калійшчыкам. Фонд заработнай платы ў аб'яднанні павялічыўся з 400 тысяч рублёў да 2 мільярдаў. Гэта з усімі сацыяльнымі выдаткамі. А колькасць бастуючых, між іншым, не перавышае дзвюх тысяч з 14-тысячнага калектыву.

Пра вынікі работы камісіі гаварыць яшчэ рана. Ясна адно: становішча складанае. Але гэтыя праблемы нельга вырашаць забастоўкай. У данай сітуацыі трэба кіравацца разумным сэнсам, адкінуць усе незадаволенасці і ісці на рабочыя месцы, не сабатаваць адгрузку, і калі прасіць нешта ў дзяржавы, то каб аблегчылі аб'яднанню цяжар сацыяльных затрат. І прыняць удзел у праграмах стварэння мабільных рабочых месц.

**— Вы не спрабавалі ўнікнуць у сутнасць канфлікту паміж бастуючымі і адміністрацыяй?**

— У такі складаны час, які перажывае краіна, я не думаю, што ёсць прадпрыемствы, дзе рабочыя былі б задаволены адміністрацыяй. Але не забастоўкамі ж вырашаюцца спрэчныя пытанні! Гэта — дзяржаўнае прадпрыемства. Ёсць вышэйшае начальства, якому трэба пісьмова пра ўсё паведаміць, хоць бы ў наш камітэт, і абгрунтаваць свае прэтэнзіі. Калі прычына незадавальнення толькі ў малой зарплаце, то гэтага мала, каб мяняць дырэктара.

**— Як вы расцэньваеце затрымку адгрузкі прадукцыі як на ўласны рынак, так і на міжнародны?**

— Гэта — сабатаж. Тыя, хто не хоча ісці ў забой, ідуць на рэльсы і стаяць перад цеплавозам, каб ён не мог выехаць. Знайшоўся нейкі разумнік і супакоіў іх, маўляў, гэта не што іншае, як парушэнне правіл дарожнага руху, таму больш як 5 рублёў штрафу не будзе. Няпраўда. Штучная затрымка вывазу прадукцыі прыводзіць да вялікіх эканамічных страт. Я прапаную выявіць тых людзей, хто прыдумаў такім чынам затрымліваць саставы, падлічыць эканамічны ўрон. І няхай вырашае суд: злачынства гэта ці што іншае.

**Рабіць нейкія заключэнні рана. Работа камісіі ў разгары. Мы будзем сачыць за ходам падзей у салігорскім аб'яднанні «Беларуськалій» і пра канчатковыя вынікі абавязкова паведамім нашым чытачам.**

**Марыя ДАБЖЫНСКАЯ.**

СУБ'ЕКТЫЎ

# ДОБРЫЯ НЕМЦЫ І «ГАЛОДНЫЯ» БЕЛАРУСЫ

У школу, дзе вучыцца сын, прывезлі гуманітарную дапамогу з Германіі. Яшчэ за колькі дзён вестка абляцела навакольныя дамы, і можна было чакаць ажыятажу. Ён-такі і ўсчаўся, але тут жа згас. Чаму — аб гэтым крыху пазней.

Перад раздачай дапамогі класныя кіраўнікі склалі спісы: хто мае патрэбу. Мелі яе «ахвяры» чарнобыльскай катастрофы, а таксама мнагадзетныя сем'і. У вызначаны час прывезлі скрыні з таварам, з'явіліся дзелавыя людзі незалежнага выгляду з чырвонымі павязкамі. Пачалі падыходзіць бацькі. У класы праціскваліся з сарамлівай усмешкай, выляталі (лепшага слова знайсці не магу) з чырвонымі тварамі, надта абураныя і з моцнымі выразамі: «Што яны прывезлі? Гэта ж рыззё! Тут выбіраць няма чаго!».

Што праўда, то праўда: адзення «ад куцюр» тут не назіралася. Сукенкі, абутак, кашулі — усё ношанае-пераношанае. Некаторыя выяўлялі нават залатанае. Адна настаўніца парвала нейкую кашулю з мэтай яе далейшага выкарыстання ў якасці анучы — школа новая, нават няма чым дошку выцерці.

Наогул, цікава было назіраць за ўсім гэтым збоку. Уяўляеце, заходзяць жанчыны ў норкавых шапках, у добрых паліто, таксама ж з норкай, у італьянскіх калготах, ботах яўна не нашага паходжання — і што? Што яны чакаюць убачыць? Бразільскую каву, нямецкі цукар, французскія сардыны? Не, яны бачаць рэчы, сабраныя добрымі, але не вельмі дакладна інфармаванымі немцамі. Я разумею даверлівых бундэсбюргераў: ну, ім так сказалі, так у іх газетах напісана. У краінах СНД голад і холад, на вуліцах шмат абарванцаў, якія просяць кавалачак хлеба, дзяцей няма ў што апрануць і г. д. — тут ужо, канешне, здымеш з сябе апошняе, але дапаможаш. Немцы — народ акуратны і эканомны, проста так нічога не выкінуць. Вось і спатрэбілася гінучай краіне. А тут яшчэ Чарнобыль — вельмі проста выціснуць слязу. Што журналісту зрабіць гэта даволі лёгка — сцвярджаю як журналіст.

Эх, звазіць бы іх, немцаў, да нас, правесці па вуліцах, паказаць сталовыя і рэстараны, Камароўку, магазіны, асабістыя халадзільнікі грамадзян і склады круп, макаронаў, многага іншага, што ёсць у кожнай другой кватэры. На жаль, нельга падлавіць момант, але ў абавязковым парадку паказаў бы я ім ледзь ці не бойку ў ашчаднай касе, калі ў ГУМе «давалі» італьянскія плашчы.

Тыя самыя «норкавыя дамы», дарэчы, стаялі ў чарзе і лаяліся вельмі энергічна. Нейкая пажылая жанчына, відаць, выпадковая тут, спытала:

— А колькі ж каштуюць тыя плашчы?

— Шэсць тысяч.

— Гэта сабе бераце ці дачцэ?

— Што вы тут пачынаеце? А хоць і дачцэ! Я не насіла, яна паносіць! Куды лезеш, я цябе тут не бачыла!

Так і быць, наняў бы перакладчыка, каб ён растлумачыў добрым немцам, наконт чаго лаянка. А ўжо яны няхай бы падумалі, паразважалі і параўналі. Ну, скажам, сталі б у вечна галоднай Эфіопіі душыцца за італьянскімі плашчамі? Магчыма, нагадалі б і сваіх бедных? Ці, можа, у Германіі кожны мае магчымасць купіць норкавае манто жонцы, а дзяцей апрануць у наймаднейшае зараз? Не думаю. Здаецца, праблем там ніяк не менш, чым у нас. Адно толькі: яны некалькі іншыя.

А самае лепшае, я прадаставіў бы бюргерам магчымасць папрысутнічаць пры дзяльбе «гуманітарнай дапамогі», station назіраць за паводзінамі прысутных, іх выразамі. Ну, вось хоць за тым салідным мужчынам з дачкой, якому хапіла пяці мінут, каб зразумець, што ён лішні на гэтым «свяце жыцця». Мне думаецца, яго дачка не будзе насіць дзіравых калготак. І я не зведваю ніякай зайздрасці да мужчыны. Мне радасна, што ён столькі зарабляе і не з'яўляецца ўтрыманцам. Хацелася б толькі паказаць яго добрым немцам.

У рэшце рэшт, кожны народ мае права на такі ўзровень даходаў, якога заслугоўвае. Заходнія немцы не сталі захапляцца сацыялістычнымі ідэямі, а будавалі традыцыйны капіталізм. Цяпер яны шлюць свае абноскі, у святой прастаце паверыўшы, што нам сапраўды дрэнна. Ну, не фантан, канешне, наша з вамі жыццё. Але, наколькі мне вядома, на вуліцах дагэтуль не падбіраюць трупы памёршых галоднай смерцю. Дакладна ведаю іншае: пакуль што вельмі мала людзей, якія свой лёс не давяраюць чужым рукам, а будуюць яго самі. Адзін з асноўных агульначалавечых інстынктаў гэта, паводле слоў Адама Сміта, «пастаяннае, бесперапыннае імкненне кожнага чалавека палепшыць сваё становішча». Тут усё для ўсіх аднолькавае — што для капіталістаў, што для сацыялістаў. Адно адрозненне: пры сацыялізме дзяржава дае ілюзорныя надзеі на паляпшэнне гэтага самага становішча. Ты працуй, а мы дадзім. Калі хопіць. Чалавек з рынкавай краіны з малаком маці засвойвае «асноўны закон»: ключы ад кватэры, дзе грошы ляжаць, ніхто не прынясе.

А мы свята верым у цуд. Дарэчы, гэта значна прасцей, чым самому яго стварыць. Ды і няма тут ніякага цуда, патрэбны грошы — зарабі. Вось і ўся філасофія. Тым больш, што зараз гэта не забараняецца.

Сын мне па сакрэту сказаў: хлопцы (яго сябры) лічылі, што немцы прышлюць відэамагнітафоны. Гэта не анекдот. Ну, а дзеці, як вядома, наша люстэрка, іншы раз мы ў ім адлюстроўваемся адзін да аднаго. Што і адбылося.

Безумоўна, чарнобыльская аварыя — страшная бяда. Толькі ніхто і нідзе не скажа, што на ёй можна спекуляваць. Літаральна. У мікрараёне «Паўднёвы Захад» шмат дамоў, дзе кватэры атрымліваюць «чарнобыльцы». Вось тут Ветка жыве, тут Нароўля, далей Чачэрск і г. д. Яны прыязджаюць са сваёй маёмасцю, становяцца на чаргу, вельмі хутка купляюць мэблевыя гарнітуры, тэлевізары і халадзільнікі. А потым прадаюць. Усе прыдатныя для гэтага месцы ў наваколлі заклеены аб'явамі: прадаю, прадаю, прадаю. Да павышэння цэн такога не было. Але, калі прадаюць, значыць, не трэба? Значыць, ёсць дзе спаць і на чым сядзець? Вельмі выгадна быць «пацярпеўшым».

Ніколі не забуду выпадак у стале заказаў універсама «Брэст». Прадавалі апельсіны, стаяла чарга льготнікаў, па маіх назіраннях, самая вытрыманая і маўклівая. Зайшла жанчына з маленькай дачкой — і што тут пачалося! Крык, плач: «Мама, купі! Мама, хачу пельсінчык!» Ну, што ты ёй растлумачыш? Што не там і не тады нарадзілася, а таму не мае права на «пельсінчык»? Не зразумее. Не для дзіцячага розуму гэта задачка...

А вось яшчэ. Бацькоўскі сход у 4-м класе. Настаўніца скончыла прамову, просіць задаваць пытанні. А пытанні такія: «Чаму нашым дзецям не даюць фрукты? Чаму мы ходзім у райвыканком і нічога не можам дабіцца? Што гэта такое?!» Настаўніца супакойвае раз'юшаных веткаўцаў, потым не вытрымлівае сама: «Ды я што, у райвыканкоме працую ці вашых дзяцей вучу?» Не ведаю, як астатнім, а мне стала сорамна. І жанчыне праз дзве парты, напэўна, таксама: моўчкі глядзіць у акно. А дзяцей у яе пяцёра. І мужа няма. Так бы мовіць, свой маленькі «Чарнобыль»...

Я яшчэ раз паўтару, ужо як сведка падзей шасцігадовай даўнасці — гора тады хапала, і людзі сапраўды нацярпеліся. Нельга зразумець іншае, як можна жыць на працэнты з бяды? Мы — пацярпеўшыя, значыць, дай тое і тое? Людзі, вядома, розныя бываюць, але што мы назіраем чарговае праяўленне ўсё той жа савецкай хваробы — утрыманства, дык гэта адназначна.

У прынцыпе, можна было б і не пісаць пра гэта. Тым больш, ёсць закон, прыняты Вярхоўным Саветам, яго трэба выконваць. Проста іншы раз карысна паглядзець на сябе ў люстэрка.

Уважлівым і доўгім позіркам.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

ЯК БЫЦЬ ПРЫГОЖАЙ

# Веснавыя фантазіі на тэмы ўбораў

**Вы адчуваеце: вясна прыйшла! Нічога, што яшчэ даволі шурпаты ветрык, часам насупіцца неба, пырсне дожджык. Гэта ўсё дробязі. Галоўнае, на дварэ — канец сакавіка. На душы весялей, а на вуліцах гарадоў і ў крамах больш мітусні. Так хочацца прыхарашыцца, купіць нешта новае, узбагаціць свой гардэроб. Выбар, на жаль, не такі ўжо багаты, і цэны... А можа лепш паспрабаваць змайстраваць нешта самой? Што ж, часам і гэта выйсце. Асабліва, каб быць на стрыжні моды.**

**Мы абяцаем вам дапамагчы арыентавацца ў гэтым капрызным і вірлівым акіяне прыгажосці, элегантнасці і высокага густу. Да вашых паслуг матэрыялы нашай новай рубрыкі.**

**Бо, як казаў некалі Цыцэрон: «Шчаслівейшы за ўсіх той, хто залежыць толькі ад сябе». Нам для шчасця часам не хапае нечага ў нашым адзенні, абутку, валасах, сумачцы і нават рамяні ці гальштуку. Мы бяром на сябе абавязак, адкрываючы гэту рубрыку, быць вашымі дарадцамі і памочнікамі ў стварэнні заключнага штрыху вашага ўбору.**

**ЯКАЯ АСАБЛІВАСЦЬ МОДЫ У ГЭТЫМ СЕЗОНЕ?** Яе надзвычайная дэкаратыўнасць. Фантазіі няма мяжы, а фарбы экзатычна яркія і разнастайныя. Поўная накіраванасць на непаўторнасць і індывідуальнасць. Таму адзенне, абутак, сумкі, пальчаткі — усё мае права на ўпрыгажэнне. І не губляйцеся, дыяпазон вобразных і стылявых рашэнняў вельмі шырокі. А пачынаецца ўсё з тканін і матэрыялаў. Яны ў гэтым сезоне вызначаюцца багатым каларытам, маляўнічасцю малюнка, разнастайнасцю фактуры і знешніх эфектаў.

Пераважаюць дывановыя, габеленавыя, каймовыя малюнкі, тонка прарысаваныя і шматколерныя, а таксама імітуючыя ручное ткацтва, пляценне, вышыўкі. Пры афармленні свайго строю прымяняйце вышыўку, аплікацыі, тасьму, рознакаляровыя шнуркі. І ўсё гэта ў самым розным спалучэнні. Не абыходзіцца сучасны дэкор і без адначасовага выкарыстання скуры, карункаў, тканін, футра, трыкатажу. Зноў у модзе ўпрыгажэнні з бісеру, караляў, шклярусу, рознакаляровых камянёў. Няма межаў у сучаснай модзе паміж вытанчаным мастацтвам і творчасцю. Усё для таго, каб жыць радасна ў прыгожым свеце.

Асабліва модныя гэтай вясной паліто з тканін сонечнага колеру ў спалучэнні з багатым фарбамі касцюмам, пашытым з шарсцяных хустак. Выгляд мае такі ўбор вельмі шыкоўны. Наогул, усе колеры вясны — ад далікатна-зялёнага да ярка-жоўтага і нават аранжавага — будуць у гэтым сезоне ў асаблівай модзе. Цікавым дапаўненнем да іх паслужыць вышыўка «рышэльё», якая добра глядзіцца на каўнярах паліто, якія можа быць самай рознай формы, і на фестонах, што абрамляюць барты блузкі або кароткага жакета. Усё гэта мае цудоўны выгляд. А пры жаданні і стараннні зрабіць гэта можна самому.

## СЁННЯ МЫ ПРАПАНУЕМ ВАМ ДА ВЯСНЫ МАДЭЛЬ КУРТКІ

**Яна распрацавана мастаком-мадэльерам С. Кірэенка і канструктарам Л. Трацэўскай, змешчана ў каталогу Беларускага цэнтра моды «ШЫЙЦЕ САМІ». Куртку можна пашыць з любой тканіны ці скуры і аздобіць у стылі гэтага сезона. У залежнасці ад фантазіі варыянтаў можа быць некалькі.**

**Наш такі. Колер асноўнай тканіны ярка-карычневы. Верхняя частка рукавоў з габеленавай тканіны, малюнак якой спалучае цёмна-карычневую, ярка-зялёную, ярка-бардовую фарбы. З такой жа тканіны каўнер — высокая стойка — і планка засцежкі. Абтачка проймы рукавоў, пагоны, манжэты, пояс і падзор кішэняў — з цёмна-карычневай тканіны ці скуры. Вось і ўсё.**

**Жадаем поспеху!**

**1. Полачка (2 дэт.)**
**2. Спінка (1 дэт.)**
**3. Планка з падбортам (2 дэт.)**
**4. 4а. Ніжняя пярэдняя частка рукава (2 дэт.)**
**5. Ніжняя лакцявая частка (2 дэт.)**
**6. Верхняя пярэдняя частка (2 дэт.)**
**7. Верхняя лакцявая частка (2 дэт.)**
**8. Каўнер (2 дэт.)**
**9. Пагон (2 дэт.)**
**10. Абтачка проймы спінкі (2 дэт.)**
**11. Абтачка проймы полачкі (2 дэт.)**
**12. Падкладка кішэні (4 дэт.)**
**13. Падзор кішэні (2 дэт.)**

**Расход тканіны пры шырыні 145 см на куртку размеру 170-88-96 — 2 м 20 см.**

**Матэрыял да друку падрыхтавала Марыя ДАБЖЫНСКАЯ.**

РЭХА ПУБЛІКАЦЫІ

## Абвінавачанні... з пальца

У газеце «Звязда» за 4 сакавіка г. г. была надрукавана заметка «На правах малодшай сястры?» Яе аўтар Лявон Мухавецкі (БелаПАН) вельмі эмацыянальна, але без падстаў сцвярджаў, што менавіта Брэсцкае ўпраўленне па друку вінавата ў адсутнасці паперы для «раёнак».

Але на справе ўсё выглядае інакш. Яшчэ ў пачатку снежня мінулага года ў Дзяржкамдрук Рэспублікі Беларусь была накіравана заяўка на паперу для друкавання абласной газеты «Заря» — 668 тон і для раённых — 479,4 тоны. З заяўленых 1.147,4 тоны ў пачатку лютага вобласць атрымала фондавае паведамленне на 764,7 тоны, з якіх па дзяржаўнаму заказу было выдзелена толькі 474,1 тоны, што складае 41,3 працэнта ад заяўленага па кожнаму выданню. Менавіта на дзяржзаказ падпісаў дагавор пастаўшчык паперы — Кандапожскі ЦПК. Такой колькасці паперы хопіць, каб выпусціць прыкладна 102 нумары газеты «Заря» і 52 нумары кожнай раённай газеты на працягу года.

Акрамя гэтага, пастаўшчык заявіў, што пачне адгружаць паперу толькі ў другім квартале. Так што, каб захаваць папярэднюю перыядычнасць, былі арганізаваны пошукі яе на біржах і па бартэру. Аднак рэалізаваць у гэтым напрамку пакуль нічога не ўдалося.

Невялічкая дэталь. Супрацоўніка Міністэрства інфармацыі, які быццам запэўніў Лявона Мухавецкага, што паперы выдзелена дастаткова, з такім прозвішчам наогул не існуе. А работнік, які вядзе пытанні забеспячэння перыядычных выданняў паперай, адзначыў, што ніякага інтэрв'ю ў такім сэнсе не мог даваць.

Выходзіць, спадар Лявон Мухавецкі прыдумаў абвінавачанні, падтасаваў факты і так «закруціў», што падвёў не толькі БелаПАН, але і газету з яе шаноўнымі чытачамі.

**Г. ТАМАШЭВІЧ,**
**в. а. начальніка ўпраўлення па друку Брэсцкага аблвыканкома.**

ДЛЯ ВАС, ЗАБУДОЎШЧЫКІ

**Сёння наша газета пачынае друкаваць праекты індывідуальных дамоў. Некаторыя з іх абазначаны як садовыя, але іх лёгка прыстасаваць для пражывання ўвесь год, зрабіць цудоўным і зручным жыллём.**

**У іх можна павялічыць колькасць пакояў агульнага карыстання, абсталяваць прасторны хол, гасціную.**

# Дом на любы густ

**Першым прапануем тыпавы праект 184-000-820.13.90.** Унутраная планіроўка дае максімальныя зручнасці для сям'і: усе пакоі раздзельныя, ёсць дзве спальні, прадугледжаны санітарны вузел, лазня, гараж, камін.

Прасторная веранда дазваляе сабрацца ўсёй сям'ёй. Тут можна абсталяваць сваю міні-цяплічку для вырошчвання расады і нават выганкі культурных раслін. Увесь падвал аддадзены пад гаспадарчыя склады і памяшканні, для розных дапаможных мэт, добра ўпісаўся і гараж.

**Звернем увагу на мансарду.** Там невялічкія, але вельмі кампактныя пакоі, балкон, лоджыя, якія зручна выкарыстоўваць як для адпачынку, так і для абсталявання нейкіх міні-цяпліц.

Яшчэ раз зазначым, што праекціроўшчыкі па жаданню заказчыка могуць хутка і дасціпна змяніць планіроўку. Нешта заменяць, расшыраць, дабудуюць. А гэта ўжо дае магчымасць выкарыстаць пабудову для пастаяннага пражывання.

У любым выпадку ўпэўнены: такі дом не сапсуе выгляду сялянскай ці гарадской вуліцы і прадаставіць максімум зручнасцей кожнай сям'і.

Дададзім, што такія зручнасці, як водаправод, прыродны газ ці газавая калонка, электраэнергія, устаноўка антэны (і нават спадарожнікавага тэлебачання), прадугледжваюцца абавязкова.

Праекты, якія мы мяркуем друкаваць па суботах, распрацаваны бюро Галоўмінскархітэктуры па заказу інстытута «Мінсктыппраект». Заказаць праект, які вам спадабаецца, можна па адрасу: **220123, Мінск, вул. В. Харужай, дом 13/61, пакой 317.** Тэлефон для даведак у Мінску — 33-74-27.

Праекты можна набыць як за наяўны і безнаяўны разлік у самім інстытуце, так і заказаць па пошце. Заказы па заяўках грамадзян і арганізацый выконваюцца аператыўна і з гарантыяй на працягу месяца.

А цяпер неабходныя звесткі па прыведзенаму намі першаму праекту.

### БУДАЎНІЧЫЯ КАНСТРУКЦЫІ:

**Фундаменты** — маналітныя стужкавыя бутабетонныя.

**Сцены вонкавыя і ўнутраныя** — з цэглы. **Перакрыцці:** над падвалам — са зборных жалезабетонных пліт, над першым паверхам — дашчанае па драўляных бэльках. **Дах** — двухсхільны па драўляных кроквах.

ПЛАН ПАДВАЛА

ПЛАН ПАВЕРХА

ПЛАН МАНСАРДЫ

РАЗРЭЗ І–І

### РАСХОД БУДАЎНІЧЫХ МАТЭРЫЯЛАЎ:

| | | |
|---|---|---|
| Цэмент | т | 9,00 |
| Сталь | т | 340 |
| Цэгла | тыс. шт. | 28,00 |
| Бетон і жалезабетон | м³ | 51,02 |
| Лесаматэрыялы | — | 15,54 |
| Агульны каштарысны кошт (цэны да 1990 года) | тыс. руб. | 22,07* |
| Аб'ём будаўнічы | м³ | 363,0 |
| у тым ліку падвала | — | 107,25 |
| плошча забудовы | м² | 52,15 |
| сумарная агульная | — | 91,00 |

* Сённяшнія цэны ў інстытуце назваць не могуць.

### ЭКСПЛІКАЦЫЯ ПАМЯШКАННЯЎ

(плошча ў кв. м)

| | |
|---|---|
| 1. Агульны пакой | 19,6 |
| 2. Прыхожая | 6,6 |
| 3. Кухня | 6,4 |
| 4. Тэраса | 3,6 |
| 5. Спальня | 9,1 |
| 6. Спальня | 9,8 |
| 7. Балкон | 6,4 |
| 8. Лоджыя | 3,6 |
| 9. Тамбур | 1,4 |
| 10. Гараж | 19,4 |
| 11. Лазня | 4,0 |
| 12 Прылазнік | 3,7 |
| 13. Прыбіральня | 2,0 |
| 14. Склеп | 4,8 |
| 15. Гаспамяшканне | 1,4 |

БІЗНЕС І ПАЛІТЫКА

**Адэса, як вядома, — горад дасціпных людзей. Калі на прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў канцы другога дня сустрэчы, віцэ-прэзідэнт адэскага акцыянернага таварыства «Міжнародная біржа дзелавой інфармацыі «Караліна» В. Балаян кінуў у залу фразу: «У нас гавораць: Адэса, зразумела, не першы горад у свеце, але і не другі», то яна была ацэнена, як і належыць. У кантэксце ж выступлення прадпрымальніка жарт зусім не гучаў жартам: калі і надалей мы гэтак жа «паспяхова» будзем развальваць эканамічныя сувязі, то дзяржавы СНД стануць не першымі, не другімі і не дзесятымі, а пяройдуць у разрад бедных краін так званага «трэцяга свету».**

**Трывогай і заклапочанасцю было прасякнута і выступленне на прадпрымальніцкім сходзе Старшыні Саўміна Рэспублікі Беларусь В. Кебіча, якое адбылося ў першы дзень яго работы. Кіраўнік урада, дарэчы, выступіў і ў ролі актыўнага ўдзельніка дзелавой дыскусіі. Прынялі ў ёй удзел таксама народныя дэпутаты рэспублікі.**

**Праўда, пра гэтыя акалічнасці мы паведамляем, што называецца, ужо з другіх рук: першы дзень сустрэчы для прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі па нейкіх прычынах аказаўся «закрытым».**

# Булат Акуджава перасцерагае...

## Кіраўнікі-палітыкі дзяржаў СНД агульную мову знаходзяць не заўсёды. Хто можа аб'яднаць агульныя інтарэсы? На гэта прэтэндуюць новыя структуры айчыннага бізнесу, што і пацвердзіла сустрэча прадстаўнікоў дзелавых колаў краін Садружнасці ў Мінску

Як заінтрыгаваць прэсу і тэлебачанне, прыцягнуць іх звышувагу да таго, аб чым вядуць размову бізнесмены з усяго былога Саюза? Вырашылі напусціць туману «сакрэтнасці». Такое тлумачэнне было дадзена на прэс-канферэнцыі. Калі ж на поўным сур'ёзе, дык удзельнікі сустрэчы хацелі мець развязанымі рукі і поўную свабоду выказванняў. У прадпрымальнікаў, як і ў іншых, ёсць свае сакрэты, а мы, журналісты, аказваецца, іншы раз іх бянтэжым...

Што ж, карпаратыўныя інтарэсы існавалі ва ўсе часы, і яны ў кожнага свае. Таму не будзем удавацца ў закулісныя дэталі, а засяродзім увагу на галоўным. Думка прэзідэнта Саюза прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь У. Карагіна гучыць так:

— Прадстаўнікі розных форм уласнасці, кіраўнікі прадпрыемстваў, біржаў, акцыянерных таварыстваў, уладальнікі прыватных фірм сабраліся для таго, каб абмяняцца ідэямі, знайсці агульны пункт апоры і аб'яднаць нашы агульныя інтарэсы. У сённяшніх складаных эканамічных умовах гэта тым больш важна, што прыняць некаторыя рашэнні палітыкаў мы, прадпрымальнікі, проста не ў стане.

Так, у многім удзельнікі сустрэчы пагадзіліся. І не толькі адносна падыходаў да прынцыповых інтарэсаў прадпрымальніцтва, стратэгіі і тактыкі нашага маладога бізнесу ў складаны для яго час, але і аб адносінах з уладамі і заканадаўцамі, аб магчымасцях уплыву на іх на карысць эканамічных пераўтварэнняў. Карацей кажучы, выпрацавана праграмнае палітычнае рашэнне, што і адлюстравана ў прынятым на сустрэчы мемарандуме..

Што з'яўляецца стрыжнем адзінага погляду, які аб'яднаў бізнесменаў і прадпрымальнікаў? У многім, на нашу думку, прынцып актыўнага непрымання таго палітыканства, якое ўсё часцей праяўляецца ў адносінах паміж дзяржавамі Садружнасці і ў ахвяру якому прыносяцца патрабаванні эканомікі, разумнага сэнсу і надзеі народаў на нармальнае жыццё ўвогуле.

— Рознагалоссі палітыкаў, якія зноў праявіліся на сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў СНД у Кіеве, вядуць усіх нас у тупік, — заявіў віцэ-прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Беларусі М. Шавельзон. — Зноў, як і ўсе семдзесят гадоў савецкай улады, палітыка, далёка не заўсёды адэкватная патрабаванням часу, цягне за сабой эканоміку. Разумны сэнс падказвае, што трэба мяняць іх месцамі. Тое, што гэта разумее кіраўнік беларускага ўрада, добра, але ж не ўсюды ў краінах СНД дэманструюць такое разуменне. Прадпрымальніцтву патрэбна адзіная эканамічная прастора, трэба ісці шляхам аб'яднанай Еўропы. Значыць, нам неабходна аказваць адпаведны націск на парламенты нашых краін, каб гэта ідэя пачала ўвасабляцца не на словах, а на справе.

Яскрава і тэмпераментна абгрунтаваў такі падыход генеральны дырэктар Кангрэса дзелавых людзей Украіны М. Кананенка. Прыводзячы прыклады і задумкі супрацоўніцтва з дзелавой Амерыкай, бізнесам Канады, іншых развітых краін, ён паставіў на парадак дня яднанне паміж дзелавымі людзьмі не толькі нашай Садружнасці, але Еўропы і астатняга свету. Тут ён вельмі дарэчы спаслаўся на вядомага ўсім нам барда-шансанье, што і знайшло адлюстраванне ў загалоўку даных нататкаў.

Толькі як збіраюцца ўплываць бізнесмены на палітыкаў — вось пытанне. Не будзем разбіраць тэзіс аб неабходнасці моцнай улады, часовага аўтарытарнага праўлення (з добрымі, зразумела, намерамі), бо ведаем, да чаго ў сённяшняй сітуацыі гэта можа прывесці. Не станем зважаць і на, так сказаць, «папулісцка-крамольную» думку, выказаную на прэс-канферэнцыі: маўляў, трэба зачыніць некаторых найбольш уплывовых палітычных кіраўнікоў СНД у Крамлі і не выпускаць да таго часу, пакуль яны не падпішуць нейкіх «урачыстых» дакументаў, што будуць заўсёды дзейнічаць у інтарэсах народаў усёй Садружнасці. Падпісаць, між іншым, можна шмат што, але ці будзе гэта выконвацца ў былых рэспубліках былога Саюза?

Успомнім лепш гамлетаўскае пытанне, якое гучыць ужо стагоддзі: быць ці не быць? Яго цяпер задае сабе прадпрымальніцтва ў цэлым: прыстасоўвацца да неспрыяльных умоў ці старацца змяніць іх, уплываць на ўрады і парламенты, распачаць своеасаблівую «лабісцкую» дзейнасць? Прыкладаў таго, што ўлады, палітыкі не прыслухоўваюцца да парад і патрабаванняў прадпрымальнікаў, прагучала нямала. Аднак ці прынясе палёгку гэты стогн ля «сцяны плачу»? Лепш падумаць, што можна канкрэтна зрабіць у сённяшняй сітуацыі.

Думаецца, неблагой ілюстрацыяй у даным выпадку можа паслужыць вопыт узаемаадносін беларускіх прадпрымальнікаў з уладамі рэспублікі. Удзельнікам сустрэчы якраз і прыводзіліся факты рознапланавага ўзаемадзеяння бізнесу з урадам Беларусі — сумеснае выкананне праграмы развіцця прадпрымальніцтва. Падкрэслівалася і тое, што такога ўзаемаразумення з цяперашнім саставам Вярхоўнага Савета рэспублікі ў бізнесменаў няма, яго механізм пакуль што не адпрацаваны.

Значыць, неабходна фарміраваць адпаведную грамадскую думку, уцягваць як мага больш людзей у прадпрымальніцтва, зацікаўліваць іх вынікамі сваёй уласнай працы. Тады і знойдзецца адзін з галоўных рычагоў уздзеяння на тыя палітычныя сілы, якія з-за сваіх амбіцый на сацыяльна-эканамічны стан грамадства, рэзкае зніжэнне ўзроўню жыцця людзей увагі не звяртаюць.

...Чытач мае поўнае права спытаць: а пры чым тут у рэшце рэшт гэты самы Булат Акуджава? Адкажам: лідэр украінскіх прадпрымальнікаў спаслаўся на паэта зусім нездарма, прывёўшы два радкі з адной яго папулярнай песні:

«За рукі возьмемся, сябры,
Каб не прапасці паасобку».

Пад гэтымі поўнымі глыбокага сэнсу словамі, вобразна кажучы, падпісаліся ўсе ўдзельнікі сустрэчы дзелавых колаў. Падпісваецца пад імі і аўтар даных радкоў.

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

